*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 28(136) ◈ 14 ліпеня 1993 г. ◈ Кошт — па дамоўленасці.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



**7 ЛІПЕНЯ, НАПЯРЭДАДНІ ПЕРШАГА З'ЕЗДА БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ, БЫЛА ПРАВЕДЗЕНА ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ АРГАНІЗАТАРАЎ З'ЕЗДА ДЛЯ ЖУРНАЛІСТАЎ.**

У гутарцы ўдзельнічалі старшыня Рабочай групы па падрыхтоўцы з'езда Ганна Сурмач, міністр інфармацыі Анатоль Бутэвіч, сустаршыня Аргкамітэта па падрыхтоўцы з'езда Пётр Краўчанка, старшыня Рады ЗБС «Бацькаўшчына» Яўген Лецка, сябра Рады Лідзія Савік і старшыня рэдакцыйнай камісіі Анатоль Сабалеўскі.

Яны паведамілі пра колькасць і склад удзельнікаў з'езда, а таксама пра ўдакладненні да рэгламенту. Былі названы самыя вялікія дэлегацыі беларусаў, якія прыбылі на з'езд. Сярод іх дэлегацыя са Злучаных Штатаў Амерыкі ў складзе 108 чалавек, з Польшчы — 91 чалавек, Англіі — 11 чалавек. Расійскай Федэрацыі — 143 чалавекі, Аўстраліі — 14 чалавек, краін Балтыі — 72 чалавекі, Украіны і Малдовы — 25 чалавек, Сярэдняй Азіі — 23 чалавекі, Паўднёвай Амерыкі — 28 чалавек. Выдаткі, выдзеленыя ўрадам на правядзенне з'езда, склалі больш за 60 мільёнаў рублёў.

Пётр Краўчанка расказаў, як узнікла ідэя правядзення Першага з'езда беларусаў свету, і адзначыў, што першыя мерапрыемствы: гадавіна каранацыі князя Міндоўга (г. Навагрудак), а таксама Купалле (Высокі бераг у Стаўбцоўскім раёне) — паказалі вялікую зацікаўленасць гэтай справай. Далей ён падкрэсліў, што настаў час аб'яднацца і думаць, як агульнымі намаганнямі будаваць нашу дзяржаву, і выказаў спадзяванне, што думка дыяспары будзе выслухана з вялікай павагай і ўсе станоўчыя прапановы ўлічаны.

Анатоль Бутэвіч падрабязна спыніўся на выдавецкай праграме, якую мела Міністэрства інфармацыі напярэдадні з'езда. Быў пералічаны шэраг літаратуры, якая выдадзена да Першага з'езда беларусаў свету. Найперш гэта «Падручнік па гісторыі Беларусі» для 5—6-х класаў тыражом 460 тыс. экземпляраў і падручнік для 4-х класаў «Беларусь — мая Радзіма», а таксама выданні, звязаныя з эміграцыяй: «Беларусы ў ЗША» В. Кіпеля, «Крокі гісторыі» А. Калубовіча, «Туга па Радзіме» — зборнік вершаў беларускай эміграцыі, «Беларусь пад нямецкай акупацыяй» Ю. Туронка і іншыя.

Было адзначана, што паколькі Першы з'езд беларусаў свету з'яўляецца не толькі агульнанацыянальным мерапрыемствам, але і з'ездам ЗБС «Бацькаўшчына», то будуць таксама праведзены выбары кіруючых органаў ЗБС «Бацькаўшчына», а таксама выказана думка, што, магчыма, такія з'езды будуць праводзіцца і надалей з перыядычнасцю раз у 4 гады згодна з статутам ЗБС «Бацькаўшчына».

Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.

*Матэрыялы з Першага з'езда беларусаў свету будуць у бліжэйшых нумарах.*

**У МЕНСКУ Ў БЕЛАРУСКІМ АКАДЭМІЧНЫМ ТЭАТРЫ ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ ПРАЙШЛА III УСЕБЕЛАРУСКАЯ ПАЛІТЫЧНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ.** У ёй прынялі ўдзел больш за сто дэлегатаў ад палітычных арганізацый Беларусі і замежжа і шматлікія госці.

**У МЕНСКУ ПРАЙШОЎ ПЕРШЫ З'ЕЗД БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ.** Прэзідэнтам згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» абраны Радзім Гарэцкі, а старшынёй Ганна Сурмач.

*У суполках ТБМ*

## Сябры ТБМ — увесь завод

Хачу паведаміць, што адбываецца на ніве беларусізацыі ў горадзе Маладзечне і, у прыватнасці, на заводзе парашковай металургіі, дзе я ўзначальваю суполку ТБМ імя Ф. Скарыны.

Дзякуючы намаганням старшыні Таварыства беларускай мовы Маладзечаншчыны Лявона Цімохіна і старшыні гарсавета Генадзя Карпенкі, у нас ёсць станоўчыя зрухі па адраджэнні роднай мовы, гісторыі і культуры.

Так, наш завод поўнасцю адным з першых у горадзе перайшоў на вядзенне справаводства на беларускай мове. Гэта пакуль аазіс беларускасці сярод заводаў і прадпрыемстваў. Кіруючыся Законам аб мовах, мы вырашылі, што настала пара дзейнічаць рашуча і энергічна. Быў выдадзены загад па заводу аб увядзенні ў карыстанне дзяржаўнай мовы рэспублікі. Пачалі са справаводства і дакументацыі (у тым ліку тэхнічнай і праектнай, дагаворнай і арбітражнай). Перавялі друкарскія машынкі канцылярыі на беларускі шрыфт. Актывісты суполкі ТБМ дапамагаюць у падрыхтоўцы службовых дакументаў на дзяржаўнай мове.

На заводзе створаны курсы па вывучэнні роднай мовы. Заняткі ў дзвюх групах вядуцца два разы на тыдзень. З газеты «Наша слова» мы перадрукавалі курс мовазнаўчых лекцый В. К. Раманцэвіч. Гэта нам вельмі дапамагае ў працы. Падрыхтоўка заводскіх выданняў інфармацыйнага і рэкламнага характару цяпер таксама выконваецца на беларускай мове. Неўзабаве пачнем афармляць свае таварныя знакі, сродкі маркіроўкі тавараў і этыкетак, інструкцыі аб карыстанні таварамі. У склад заводскай адміністрацыі па ініцыятыве суполкі ТБМ увялі пасаду карэктара, асноўнымі задачамі якога з'яўляюцца рэдагаванне і пераклад на беларускую мову службовых дакументаў.

Усе шыльды на дзвярах кабінетаў і службовых пакояў у нас выкана期 на роднай мове. Для заводскай бібліятэкі мы выпісалі газету «Наша слова». Збіраемся выпусціць нумар насценнай газеты «Спадчына».

На сходзе прадстаўнікоў вытворчых падраздзяленняў завода было аднадушна вырашана лічыць увесь калектыў сябрам Маладзечанскага аддзялення ТБМ імя Ф. Скарыны.

Наталля ШУНЬКО,
старшыня суполкі ТБМ
Маладзечанскага завода
парашковай металургіі.

*Меркаванні*

## НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ ПАЧЫНАЕЦЦА З МОВЫ ДЗЯРЖАЎНЫХ АКТАЎ

Я вельмі паважаю «Народную газету», чытаю з першых нумароў, агітаваў, каб на яе больш падпісваліся. І ўсё ж не заўсёды разумею падыходу яе кіраўніцтва да ўжывання двухмоўя. Хоць бы ўжо дзяржаўныя акты публікавалі толькі па-беларуску. А то нават праект Канстытуцыі падрыхтавалі на расійскай мове. Не адчуваецца грунту, пасльядоўнасці. Як, дарэчы, увогуле ў дзейнасці дэпутатаў Вярхоўнага Савета, чыім выданнем яна з'яўляецца. Як, помню, некалі, дамагаючыся свайго абрання, кандыдаты ў дэпутаты стукалі сябе ў грудзі, што будуць абараняць інтарэсы Беларусі! А як паслухаеш сесію... Дарэчы, паважанага В. Кебіча некалі з вялікім пафасам прымалі ў сябры ТБМ, і ён абяцаў загаварыць па-беларуску. І што чуем? Вось гэтак і ўсё астатняе.

Мікола ЛІННІК.

м. Радашковічы.

## КАБ ЛЮБІЦЬ БЕЛАРУСЬ...

Разумею тых, хто імкнецца навязаць беларусам двухмоўе. Гэта людзі, якія ўсведамляюць, што толькі такім шляхам можна канчаткова знішчыць Беларусь. Я па сабе адчуваю: у роднай мове ёсць нейкая сіла, якая перадаецца мне ад продкаў і яднае з суседзямі і блізкімі. І што з таго, калі кажуць: беларуская мова блізкая з расійскай? Вунь у балгар таксама вельмі падобная, а яны ж не сталі на шлях здрады свайго. Чэхі таксама і славакі. А мы што, зломкі? Толькі трэба, каб міністэрствы культуры і адукацыі больш рашуча ставіліся да распаўсюджвання беларускай мовы. А то вось бібліятэкі ў нашай Мар'інай Горцы працэнтаў, відаць, на 80 нашпігаваныя расійскай літаратурай. А кніжку Францішка Багушэвіча я ў трох бібліятэках горада не змог знайсці. Вельмі шкада, што не купіў у краме два гады назад, а цяпер няма. Газеты і часопісы бібліятэкі таксама выпісваюць пераважна расійскія ці рускамоўныя. Гэта не спрыяе нашаму Адраджэнню. Мы павінны дбаць пра сваю культуру, інакш і эканомікі моцнай не будзе, бо людзі без любові да радзімы ў сэрцы і на вытворчасці ненадзейныя.

Лявон ДУБОЎСКІ,
рабочы.

Мар'іна Горка.

*Набалелае*

## «Говорите по-русски»— загадваюць чыноўнікі

Разглядалася грамадзянская справа ў Навагрудскім раённым судзе. Незвычайная для нашага часу. Усё часцей паўстаюць пытанні забеспячэння і надзялення жадаючых грамадзян зямлёй. Жаданне яе атрымаць і нежаданне мясцовага кіраўніцтва даць. Тлумачэнні даюцца розныя: недасканаласць заканадаўства і імкненне чыноўнікаў знайсці розныя недакладнасці, каб не даць. Але напісаць гэтыя радкі мяне прымусіла тое, як зацята чыноўніцтва не жадае выконваць амаль усе законы, прынятыя Вярхоўным Саветам. У тым ліку і Закон аб мовах не знайшоў свайго практычнага прымянення ў вядзенні судовай справы. У якасці істца я на судзе пачаў было выкладваць доказы на беларускай мове. Але пракурор Астапаў запатрабаваў ад мяне «говорить по-русски», «иначе он ничего не понимает». Мне прыйшлося напомніць яму, што ён грамадзянін Беларусі і нават нарадзіўся ў Навагрудку. Вучні, прыехаўшыя па збегу акалічнасцей з далёкай Арменіі ці Азербайджана, засвоілі гаворку на беларускай мове, а нашы пракуроры з тутэйшых гэтага ці не могуць, ці не жадаюць. Бясконца ўразіла такое становішча. Няўжо для нашых дзяржаўных чыноўнікаў трэба наймаць перакладчыкаў? Магчыма, менавіта навяданне мовы пракурорам і прадвызначыла вырашэнне зямельнага пытання не на маю карысць. Ды і ці зразумеем мы калі-небудзь адзін аднаго: забяспечаныя, атлусцелыя чыноўнікі і простыя люд, які не жадае жыць па-старому, а хоча паправіць сваё цяжкае матэрыяльнае становішча за кошт сваёй працы, мазаля. Дык колькі чакаць, пакуль абаронца наменклатуры, якая зараз распараджаецца зямлёй, прывыкне да беларускай мовы і зразумее, што пакуль беларусу-працаўніку, шчыраму вытворцу матэрыяльных даброт не даць магчымасці працаваць на карысць сабе, дзяржава будзе бедная? І зразумець ён гэта павінен пабеларуску, без чаго зноў жа моцнай незалежнай дзяржавы не будзе, а толькі вотчына чыноўніцтва.

А. У. ПЯТРЫНА.

г. Навагрудак.

*Беларускі час у фотааб'ектыве*



## *Курапаты*

Гэта гора і памяць людзей...
Утравелыя ямы-магілы...
Немагчыма спакойна глядзець,
Кулакі наліваюцца сілай.
Яшчэ ка́ты па-царску жывуць,
Як у замках, заселі на дачах.
Што з таго, што іх людзі клянуць,—
Ка́ты іх і не чуюць, не бачаць.
Што тварылася ў нас на зямлі:
Працаваў чорны воран без стомы...
О, якія часіны прайшлі,
Колькі шчэ ў нас магіл невядомых...
Ля магіл утравелых стаім...
Родны край наш на гора багаты.
Нельга быць мне сляпым і глухім,
Ў сэрца стукаюць нам Курапаты.

**Фота БЕЛІНФАРМ.**

*Весткі з Віленшчыны*

# *Вільня рыхтуецца да сустрэчы з Папам Рымскім*

У першай дэкадзе верасня (прыкладна 5—7) у Літву мае прыбыць глава рымска-каталіцкай царквы Ян Павел II.

Візіт Папы Рымскага — вялікі гонар і свята для ўсіх беларусаў-каталікоў. Няма сумнення, што калі Сьвяты Айцец прыбудзе ў Вільню, у горад хлынуць натоўпы паломнікаў.

У Вільні Ян Павел II наведае Вострую Браму і Кафедральны Сабор, а ў парку Закрэт (Вінчыс) адслужыць набажэнства. Паводле праекта архітэктара В. Насвітаса на эстрадзе парка будзе ўстаноўлены часовы алтар. Будзе выканана таксама меса Ю. Наўяліса, выступяць свецкія і рэлігійныя хоры. У час прыняцця ўрачыстага прычасця (камуніі) выступіць зводны польскі хор.

У сталіцы Літвы ідзе шырокая падрыхтоўка да візіту Святога Айца. Створаны арганізацыйны камітэт, які ўзначаліў віцэ-мэр Вільні спадар В. Камайціс. Намечана ўпарадкаваць усе плошчы і вуліцы на маршруце картэжу высокага госця. Паломнікаў-вернікаў у Вільні мяркуецца размясціць у гасцініцах, школах і на прыватных кватэрах.

Толькі добраўпарадкаванне эстрады ў згаданым парку, вуліц і рамонт некаторых аб'ектаў Старога горада запатрабуе выдаткавання 200 мільёнаў талонаў. Сродкі павінны паступіць з рэспубліканскага і гарадскога бюджэтаў, ад ахвяраванняў прадпрыемстваў, арганізацый, устаноў і асобных грамадзян.

Лічым, што і беларусы не павінны застацца ў баку ад гэтай важнай падзеі. Рыхтуйцеся, збірайцеся і прыязджайце ў нашу Вільню на сустрэчу з Святым Айцом — Янам Паўлам II! Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны Віленскага краю акажа гасцям з Беларусі пасільную дапамогу.

Наш адрас: г. Вільня, вул. Архітэкту, 23-79, тэл. 41-99-92 (хатні), 44-23-69 (хатні).

Сардэчна запрашаем!

**Юрась ГІЛЬ,**
**сакратар ТБМ імя Ф. Скарыны Віленскага краю.**

# Аляксей Карпюк: «Не буду

***Ён нарадзіўся ў 1920 годзе ў вёсцы Страшава на Беласточчыне. Перад вайной быў у камсамольцах, арыштоўваўся. Пад нямецкай акупацыяй — у антыфашысцкім падполлі; арыштаваны, кінуты ў лагер Штутхоф. Па ўцёках з лагера — партызан, пазней камандзір атрада імя К. Каліноўскага. Сярод баявых адзнак мае савецкі ордэн Чырвонага Сцяга і вышэйшы польскі ордэн — Залаты Крыж «Віртуці Мілітары». У баях за Берлін цяжка паранены. Пасля вайны скончыў аддзяленне замежных моў педагагічнага інстытута ў Гародні. Напісаў аповесці і раманы «Данута», «Пушчанская адысея», «Вершалінскі рай», «Карані», «Белая Дама», «Рэквіем», шмат апавяданняў, нарысаў, мініяцюр — агульны наклад яго кніг, выдадзеных на сямі мовах, дасягнуў 1 млн. асобнікаў. Быў адным з заснавальнікаў і першым дырэктарам Музея рэлігіі ў Гародні — фактычна гэта музей беларускай культуры і старажытнасці. Заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь. У 1966 годзе на з'ездзе СП БССР выступіў з «нацыяналістычнай» і «антысавецкай» прамовай — тэкст упершыню надрукаваны толькі ў 1990 годзе. У 1971 годзе КДБ па загаду гаркама і абкама КПСС у Гародні сфабрыкаваў на А. Карпюка «справу» як на «здрадніка» і «фашыста». У 1989—1991 гадах напісаў шэраг антыбальшавіцкіх артыкулаў, удзельнічаў у мітынгах БНФ, спрыяў арганізацыі Саюза палякаў Беларусі. Вясной 1991 года выйграў судовы працэс супраць часопіса ЦК КПБ «Политический собеседник» і выйшаў з КПСС. Потым была цяжкая хвароба і аперацыя. А 14 ліпеня 1992 года Аляксея Нічыпаравіча не стала...***

На вашыя пытанні трэба адказваць тыдзень,— сказаў ён.— Таму **выберу** самыя галоўныя для мяне: Гарадзеншчына, Беласточчына, лёс беларусаў і палякаў... «Крэсы»... Але я буду **гаварыць шчыра; што з гэтым рабіць — ваша справа.**

Цяпер у газетах «ЛіМ», «Звязда» з'яўляюцца артыкулы, што ў Польшчы непрыязна адносяцца да беларусаў, **цэрквы паляць... І ўсё агулам: «яны»,** «палякі». Хаця Гайнаўскую царкву спаліў звыклы злодзей, да таго ж хворы псіхічна; дарэчы, адбудоўвалі яе на ўрадавыя грошы.

Я бачу гэта здаўна. Цяжба цягнецца стагоддзі. **Не буду гаварыць за палякаў —** у сваіх грахах няхай каюцца самі. А буду гаварыць, дзе палякам насвінячылі беларусы.

Пачалася вайна. 1939 год. Гэтак званае «вызваленне». З аднаго ярма ды ў другое... Бальшавікі, НКУС вывозілі палякаў у Сібір па-страшнаму. Мала таго, заахвочвалі да злачынстваў беларусаў — асабліва паддаваліся маладыя. Трох польскіх настаўнікаў з Гарадка — Юзафа Брыля, Вэбара і Яворскага — былыя «зухі» з КСМЗБ выгналі на луг і закалолі штыкамі. У суседняй вёсцы, Бялевічах, заляцаўся паляк да мясцовай дзеўкі. Як прыйшлі Саветы, такія ж «падпольшчыкі» злапалі яго ноччу ў бульбе і зарэзалі. Далей... Ехаў роварам варшавяк, уцякаў ад немцаў,— Іван Нарэмскі з сябруком з маёй жа вёскі перапынілі, застрэлілі, забралі ровар. Іван зняў шкарпэткі — потым выхваляўся тымі шкарпэткамі перад дзеўкамі ў вёсцы... Ну што, у адной маёй вёсцы такія падонкі?! Сакрат Яновіч напісаў мне, што мой Альяш з «Вершалінскага раю» таксама загінуў: вывелі старога з двума леснікамі-палякамі на выган былыя камсамольцы і расстралялі.

Тут, у Шчорсах, з царскіх часоў быў мост, даглядаў яго паляк з-пад Варшавы, Струбінскі. У першы ж дзень «вызвалення» прыйшлі камсамольцы і зарэзалі. Таксама тутэйшыя...

Пад Наваградкам вёска Рута. Там камсамольцы падпалілі маёнтак, яго гаспадара, старога графа, прымусілі глядзець, як гарыць, потым зарэзалі. У сваіх успамінах Ларыса Геніюш піша, як у самы «дзень вызвалення» падбухтораныя бальшавікамі мясцовыя камсамольцы забілі леснікоў-палякаў і праваслаўнага бацюшку.

А што рабілася, як пачалі вывозіць асаднікаў! На такую «работу» бралі з фурманкамі беларусаў, якія адвозілі асуджаных да бліжэйшай станцыі. Такі фурман, пакуль давозіў, браў кажушок, боты, адзежу... Потым тыя, што вярнуліся з Сібіры, усе крыўды прывезлі з сабой назад.

**— Як на вашу думку, дзе прычына гэтай нянавісці?**

— Улада мянялася часта. За маё жыццё — шэсць разоў! І кожны раз адны помсцілі другім — то палякі гэтак рабілі, то беларусы. Гэта ўжо **такая «традыцыя»...** А возьмем вайну! Гэтыя акоўцы (удзельнікі Арміі Краёвай.— *Рэд.*) — гэта ж геройскія хлопцы, якія аперацыі рабілі: напад на турму ў Лідзе, вызваленне вязняў з-пад расстрэлу! Нашым партызанам такое не снілася. А ў камандавання нашага лічыліся тыя з АК заклятымі ворагамі! Не, каб наладзіць з імі сувязь і разам ваяваць з немцамі,— прыйшоў з Масквы загад: усіх палякаў ліквідаваць... У нас яшчэ камбрыг быў нейкі людскі, сказаў ім паціху: так і так, уцякайце. А ў другой брыгадзе за ноч павыбівалі ўсіх!

А пасля вайны? Узяць тыя самыя «банды»... Якія банды? Ішла самая натуральная грамадзянская вайна. Хлопцы-палякі ўцякалі ў лес ад вывазу ў Сібір і там «чакалі Амерыку»... І беларусаў ведаю, якія ў тых «бандах» былі, але няшмат, больш палякаў. Ну вось, давайце зазірнем у душу такога ўцекача, якога ў лесе апанавалі вошы, голад і холад, а сэрца разрывае крыўда і злосць на тых, хто давёў яго да такога стану. Вось і аселі ў душах палякаў нянавісць, антаганізм, недавер. Яшчэ вярнуся да Гайнаўскай царквы... А перад вайной касцёлы гарэлі. І ў 1947 годзе ў Малой Бераставіцы камсамольцы спалілі касцёл...

Хочацца каму альбо не, а нам трэба прызнаць, што ўзровень нацыянальнай свядомасці ў палякаў вышэйшы. Ды і культуры. У нас злуюць на Польшчу, зайздросцяць чорнай зайздрасцю. Але калі мы такія лапухі, што так і цягаемся «вернымі камуністамі», дык чаго, зрэшты, хацелі?! Упэўнены, што толькі пры ўзаемнай адкрытасці і шчырасці можна дайсці да чаго-небудзь путнага і людскага.

**— Значыць, у гэтым уся «польская праблема» на Беларусі?**

— «Польская праблема»... З ёй звязана, скажам, і яўрэйская праблема. Да вайны тут было шмат яўрэяў — іх усіх павыбівалі. Чаму яўрэі не ўцякалі ў лес? А не было куды ўцякаць — да іх тут не надта добра ставіліся, не спачувалі ім нашы людзі. Сябе пільнавалі... У 1940 г. немцы акупавалі Данію. Адразу загадалі ўсім яўрэям начапіць жоўтыя шасцікутныя зоркі. Тады кароль Леапольд начапіў такія ж зоркі сабе, каралеве і дзецям. Следам за каралём — на другі дзень — усе датчане. Немцам давялося адступіць. Так тысячы людзей засталіся жывымі...

Былі выпадкі, калі ў нас нехта хаваў яўрэя, але гэта выпадкі, асобныя, адзінкавыя выпадкі...

Чаму немцы зрабілі Трэблінку ў Польшчы або Трасцянец пад Менскам — і звозілі сюды яўрэяў з Галандыі, Бельгіі, Францыі?! А таму, што людзі, як правіла, уцекачам не дапамагалі. Я вельмі і вельмі не хацеў бы, каб такая пляма была на маім народзе, але што ж — з песні слова не выкінеш.

Агідную звычку ненавідзець увесь свет прынеслі сюды камуністы. У верасні 1939 года з-пад Віслы адступала адзінка польскай арміі на чале з генералам Вільчынскім. Даведаўшыся, што з усходу ідуць «росьяне», сталі яны лагерам каля Сапоцкіна, дзе вёска Калеты,— чакаць «саветаў», каб разам ваяваць з немцамі. А «саветы» прыйшлі, паставілі ўсіх у шыхт, вывелі афіцэраў, капралаў, потым па руках, па тварах «пазнавалі» і выводзілі «паноў» — усіх, хто здаўся падазроным, завялі ў ельнік і расстралялі,

*Згадкі*

# БЫЛА АКТЫВІСТКАЙ ТБШ



Культурна-асветная арганізацыя Таварыства беларускай школы (ТБШ) існавала ў Заходняй Беларусі з 1921 да 1937 года. Яна праводзіла шырокую і актыўную дзейнасць дзеля адкрыцця беларускіх школ, стварала гурткі самаадукацыі працоўных, бібліятэкі-чытальні, драмгурткі, наладжвала выступленні перад працоўнымі, выдавала газеты і часопісы на беларускай мове. У 1928 годзе, напрыклад, у Заходняй Беларусі было ўжо 500 гурткоў ТБШ, якія налічвалі каля 30 тысяч яго членаў.

Кіраўнікамі і актывістамі Таварыства беларускай школы былі Браніслаў Тарашкевіч, Ігнат Дварчанін, Піліп Пестрак, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Рыгор Шырма і многія іншыя беларускія інтэлігенты. Была актывісткай ТБШ і прыгожая слонімская дзяўчына Алена Лябецкая (1903—1981). Сёлета спаўняецца 90 гадоў з дня яе нараджэння. Менавіта ў гэты юбілей і хочацца трохі нагадаць пра яе.

Нарадзілася Алена Лябецкая 2 ліпеня 1903 года на хутары Лагуцёва Казлоўшчынскай воласці Слонімскага павета (цяпер Дзятлаўскі раён) у сям'і селяніна-серадняка. У 1926 годзе стала адным з арганізатараў ТБШ у Слонімскім павеце. «Свой першы арганізацыйны сход мы правялі ў Казлоўшчыне, у доме М. Тарасюка... Старшынёю выбралі мяне... Сход вырашыў арганізаваць гурток самадзейнасці. Мы тут жа падабралі патрэбную п'есу. На пастаноўку п'есы трэба было дабіцца дазволу ў Слонімскім старастве, куды я хадзіла пяшком за 30 кіламетраў... Першы спектакль мы паставілі ў Казлоўшчыне, у гумне Тарасюка. Іншых больш падыходзячых памяшканняў не было, а дзе і былі, то нас туды не пускалі. Але такое незвычайнае памяшканне нас не збянтэжыла. Усе сцены гумна мы прыбралі бярозкамі і даматканымі коўдрамі, якія прынеслі дзяўчаты. Пры ўваходзе з абодвух бакоў да нашага «тэатра» былі высаджаны беластвольныя бярозкі. Сцэну змайстравалі нашы таварышы. Білеты мы прадавалі самі. Былі і запрашальныя білеты, якія пісаліся ад рукі і рассылаліся па вёсках.

Поспех нашага спектакля быў незвычайны. Гумно не ўмяшчала ўсіх жадаючых паглядзець спектакль. Ад паступіўшага грашовага збору частка сродкаў была перададзена ў МОПР. На астатнія грошы мы купілі беларускую літаратуру для арганізацыі бібліятэкі. Кнігі для бібліятэкі збіралі таксама і па хатах. Кожны член гуртка збіраў кнігі сярод сваіх знаёмых. Пасля спектакля дэкламавалі вершы Янкі Купалы «Чаго вам хочацца, панове, які вас выклікаў прымус?», «Лявон», «Курган», «Мужык» і іншыя.

За час работы гуртка былі пастаўлены п'есы «Страхі жыцця», «Паўлінка», «Лекары і лекі», «Збянтэжаны Саўка».

Хор вывучыў песні «Ой ты, Нёман, рака», «Жыў на свеце Лявон» і іншыя.

Работа гуртка не абмяжоўвалася толькі мясцовымі рамкамі. Мы хадзілі ставіць спектаклі і даваць канцэрты і ў іншыя вёскі, каб зацікавіць, разбудзіць працоўны народ да дзеяння, знайсці сабе паслядоўнікаў. Памятаю вёскі Мілашэвічы, Даўбневічы, Скрундзі, дзе мы ставілі спектаклі, заязджалі нават у такія аддаленыя ад нас мясціны, як Дзярэчын і горад Слонім...» — такія ўспаміны, змешчаныя ў кнізе «У суровыя гады падполля» (Мн., 1958 г.), пакінула Алена Лябецкая сваім нашчадкам.

30 снежня 1927 года ў Вільні адбыўся першы з'езд ТБШ. Дэлегатамі ад Слонімшчыны былі Павел Крынчык, Сямён Жыткевіч, Алесь Біч і Алена Лябецкая, якая тут была выбрана старшынёю рэвізійнай камісіі.

У сакавіку 1929 года яе выклікалі ў Вільню для работы ў Галоўнай управе ТБШ. Там яна вяла аддзел перапіскі, пасля загадвала беларускай бібліятэкай-чытальняй. Тут, у Вільні, Алена Лябецкая прымала актыўны ўдзел у кампаніі па падрыхтоўцы да склікання Еўрапейскага сялянскага кангрэса ў Берліне. Дарэчы, яе таксама выбралі дэлегатам на гэты форум, але паехаць яна не змагла — 13 лютага 1930 года яе арыштавала польская паліцыя і пасадзіла ў Віленскую турму на Лукішках.

У выніку абмену палітзняволенымі ў 1933 годзе Алена Лябецкая прыехала ў БССР. Тут паступіла ў Белдзяржуніверсітэт, а таксама працавала ў ЦК МОПР БССР. Праўда, гэты палітабмен ёй і яе сям'і шчасця не даў. У 1937 годзе яе неабгрунтавана абвінавацілі ў шпіянажы на карысць Польшчы і адправілі далёка на Поўнач. Рэпрэсіраваны быў і яе муж Павел Крынчык, які ў 1928 годзе быў выбраны паслом польскага сейма.

На радзіму Алена Лябецкая вярнулася пасля вайны. Пазней была поўнасцю рэабілітавана. Жыла з сям'ёй у Слоніме, працавала да пенсіі бухгалтарам у аддзеле культуры Слонімскага райвыканкама...

Ёсць у беларускага паэта Міхася Васілька цудоўнае чатырохрадкоўе «Перад бурай»:

Калі насоўваецца мрок пануры,  
Ад спалоху дрыжаць адны асіны.  
Мы не дрыжым!.. Так перад бурай  
Маўчаць дубы ў задуме сіняй...

У гэтых радках мне бачыцца сёння вобраз былой актывісткі ТБШ Алены Лябецкай, якую не знішчылі ні пілсудчыкі, ні бальшавікі ў сваіх турмах і канцлагерах.

Сяргей **ЧЫГРЫН.**

*Беларусы ў свеце*

# Недапісаныя старонкі

Відаць, нават не ўсе літаратары ведаюць імя Міколы Калінковіча. Зрэшты, гэта і зразумела, бо на Беларусі з такім прозвішчам звязаны толькі тры невялічкія кніжкі. Першая — «Лунінец» (1979) (напісана Калінковічам у сааўтарстве), «Палескія дні Аляксандра Блока» (1986) і «Лунінец» (1990). Апошнюю, мабыць, не ўбачыў і сам аўтар.

Няма артыкула пра Міколу Калінковіча — члена Саюза пісьменнікаў былога СССР, кандыдата юрыдычных навук, аўтара пяці краязнаўчых кніг (тры з іх выдадзены ў Ашхабадзе) ў грунтоўным пяцітомніку «Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі». Праўда, публікацыі нашага земляка ў гэтай энцыклапедыі згадваюцца ў артыкуле, прысвечаным Аляксандру Блоку.

Няпросты лёс напаткаў Міколу з дзяцінства. Але ён знаходзіў у сабе мужнасць, каб крочыць па жыцці ўпэўнена і мэтанакіравана. Колішні лунінецкі падлетак ведаў: чагосьці значнага, вартага можна дамагчыся толькі нястомнай працай. Вы толькі ўявіце, колькі з'ядналася ў чалавеку: пастаянная ўвага да родных мясцін, хоць гады жыцця былі аддадзены Ленінграду, Новасібірску, Ашхабаду, Ташкенту, Маскве, Тбілісі, цікаўнасць да руска-беларускіх літаратурных і гістарычных сувязяў, літаратурнае краязнаўства Беларусі, лёсы землякоў-беларусаў у Сярэдняй Азіі... І кожны накірунак, кожны прасцяг — дзесяткі артыкулаў, нарысаў у газетах і часопісах, радыёпастаноўкі, кнігі, сотні старонак рукапісаў, якія пры жыцці аўтара не дачакаліся друку. А ў дадатак яшчэ — дысертацыя, і самае няпростае,— служба... Вы ўжо здагадаліся, мабыць, што М. Калінковіч — афіцэр. Апошняя яго пасада — падпалкоўнік дзяржбяспекі, загадчык кафедры адной з навучальных устаноў тады яшчэ КДБ СССР.

А цяпер паспрабуйце паяднаць усе захапленні гэтага чалавека... Як толькі знаходзіў час на кожную справу? Уявіце таксама маўклівую рэакцыю начальства: афіцэр дзяржбяспекі займаецца краязнаўствам.

Ёсць у М. Калінковіча недрукаваная кніга, прысвечаная Уладзіміру Самойлу, настаўніку, добразычліўцу, дабрадзею Я. Купалы.

Самойла — адна з загадак у гісторыі нашай літаратуры. У выдавецтве «Мастацкая літаратура» і зараз ляжыць кніга Калінковіча пра гэту найцікавейшую асобу. Але ці выйдзе яна? Ці не задушыць эканамічны дыктат рынку яшчэ адзін светлы клопат?

Найпершая рыса прафесійнасці ў краязнаўстве — глыбокая і заслужаная ўвага да архіўных дакументаў. Вось як сам Мікола вызначыў сваю прыхільнасць да архіўных пошукаў: «Для мяне праца ў архіве — найшчаслівае імкненне жыцця...» У Маскве ён працаваў галоўным чынам у Цэнтральным Дзяржаўным ваенна-гістарычным архіве, які, дарэчы, амаль не вывучаны беларускімі даследчыкамі... Міколу не спыняла тое, што ніколі не было ўпэўненасці ў магчымасці апублікаваць напісанае. З'яўленню новых публікацый аўтара перашкаджалі, вядома, частыя пераезды (у Ашхабадзе каля пяці гадоў, у Маскве — тры, і пасля, да самай смерці — тры гады ў Тбілісі). Мо і здолеў бы ён раскрыцца шырэй, каб рыхтаваў матэрыялы толькі для маскоўскіх выдавецтваў — для тае ж, напрыклад, серыі «Жизнь замечательных людей», у якой, да слова, выдатныя беларусы дагэтуль амаль не прадстаўлены.

Зараз вельмі важна не згубіць напісанае Міколам Калінковічам ў архіўных пошуках. Варта ўважліва перагледзець творчую спадчыну пісьменніка-краязнаўцы, дзе ёсць, несумненна, шмат матэрыялаў, якія істотна дапаўняюць выдадзеныя кнігі, надрукаваныя артыкулы... Апошнія гады свайго жыцця Мікола Калінковіч як толькі мог паскараў творчы тэмп. Працаваў да стомы, да поўнай знямогі.

Няма сумненняў, што за свае няпоўныя сорак гадоў Мікола Калінковіч зрабіў усё што мог. А можа, нават і болей... Недапісаныя старонкі пісьменніка чакаюць друкарскага варштата.

Алесь **КАРЛЮКЕВІЧ.**

# Каб было дакладна

«Наша слова» распачало яшчэ адну вельмі добрую і карысную справу — публікацыю матэрыялаў і ўспамінаў пра беларускія гімназіі ў даваеннай Заходняй Беларусі. З хваляваннем я прачытала допіс М. Чарняўскага «Помняцца тыя далёкія дні» («НС», № 17, 1993) і вельмі ўдзячная Яўгеніі Данілаўне Мілеўскай, якая ў 1917—1918 гг. вучылася ў Будслаўскай беларускай гімназіі, за ўспамін пра майго бацьку Вінцука Грышкевіча і стрыечнага дзядзьку Часлава Ханяўку. І разам з тым не магу не звярнуць увагі на пэўныя недакладнасці ў артыкуле М. Чарняўскага.

Найперш пра Часлава Ханяўку. Як сведчаць яго ўдава спадарыня Марыся Ханяўка і ўдава В. Грышкевіча спадарыня Раіса Жук-Грышкевіч (з ёй на гэты конт я мела тэлефонную размову), Ч. Ханяўка быў на шэсць гадоў маладзейшы за В. Грышкевіча і вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі, калі яго стрыечны брат Вінцук ужо скончыў універсітэт у Празе і вярнуўся ў Вільню, дзе выкладаў гісторыю ў беларускай гімназіі. Ч. Ханяўка скончыў аграпамічны факультэт Віленскага універсітэта, працаваў аграномам, выкладчыкам Віленскай беларускай гімназіі ніколі не быў.

Па-другое. Як сцвярджае вядомы даследчык беларускай культурнай спадчыны Янка Саламевіч, даваенная Віленская беларуская гімназія не мела імя Францішка Багушэвіча. Па-трэцяе, зноў жа паводле сведчання спадара Я. Саламевіча, выдаўцом газеты «Дзянніца» быў З. Жылуновіч (Цішка Гартны), а не Э. Будзька. І апошняе. Заснавальнік беларуска-сялянскай кааперацыі Эдвард (Адвард) Будзька ніколі не называў сябе Эдуардам.

В. Грышкевіч, Ч. Ханяўка, Э. Будзька знайшлі вечны спачын у далёкай амерыканскай зямлі. Але на эміграцыі жывуць іх родныя, блізкія, якія, вядома ж, цікавяцца і «Нашым словам». Ці ж не прыкра ім чытаць няпраўду пра сваіх найдаражэйшых? Мусіць, калі робім добрую справу, то рабіць яе трэба добра.

Рагнеда **АЛЯХНОВІЧ.**

*Замежжа*

# У Казахстане «ўсё павісла»

Нават сям'я, калі кожны яе член будзе дбаць толькі пра ўласныя выгады, рызыкуе ці разваліцца, ці жыць у беднасці. Што тады казаць пра людзей, якія адчуваюць сваю часовасць у нейкім гурце. Нешта падобнае можна спраецыраваць на дзяржаву. Гэта яшчэ раз пацвярджаюць апошнія падзеі ў Казахстане. Здаецца, зусім нядаўна ягоны прэзідэнт Назарбаеў усіх павучаў, як мацаваць інтэрнацыяналізм і замест разбуранага СССР стварыць новы Саюз. Але цяпер падобна на тое, што яму даводзіцца галоўным чынам ламаць галаву, як адшукаць выйсце са становішча, у якім апынуўся Казахстан, дзякуючы рабаўніцкай дзейнасці свайго вышэйшага звышінтэрнацыяналізаванага чыноўніцтва. У дзяржаве «ўсё павісла», вымушаны прызнацца нядаўна-такі самаўпэўнены прэзідэнт Назарбаеў. У выніку драпежнай практыкі разбазарвання яе чынавенствам краіна, у многа разоў пераўзыходзячы па прыродных багаццях квітнеючы Кувейт, не можа, як зазначаюць журналісты, нават забяспечыць уласнае насельніцтва элементарнымі прадуктамі і лекамі для хворых, не гаворачы ўжо пра нейкае выйсце з эканамічнага крызісу.

У апошнія дні стала вядома, што Назарбаеў пачаў рашучыя захады па ўзмацненні выканаўчай улады кампетэнтнымі людзьмі. Дарэчы, скасаваны Кансультатыўны савет пры прэзідэнце і створаны новы, ужо Нацыянальны, па дзяржаўнай палітыцы. Час пакажа, наколькі новая назва адпавядае сапраўды інтарэсам казахскага народа,

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ ў пытаннях і адказах

*Працяг. Пачатак у №№ 24-27.*

## Калі на беларускай зямлі з'явіліся курганы?

Курганы — гэта земляныя насыпы над старажытнымі магіламі памерлых, звычайна круглыя ў плане, пярэчнікам у сярэдзіне 5—15 метраў, вышынёй 1—2 метры. Сустракаюцца пераважна скапленнямі. На Беларусі яны з'явіліся на мяжы 3-га і 2-га тысячагоддзяў да Н.Х. і былі вядомыя пераважна на Падняпроўі і Палессі. У другой палове 1-га тысячагоддзя і на пачатку 2-га тысячагоддзя па Н. Х. пад кургановымі насыпамі хавала нябожчыкаў усё славянска-балцкае насельніцтва Беларусі. З умацаваннем хрысціянства звычай насыпання курганоў сярод гараджан знікае ў XI стагоддзі, у сельскай мясцовасці — у XIII—XIV стагоддзях. Паводле дахрысціянскіх вераванняў курганы былі дамоўкамі памерлых. Нябожчыкам «на той свет» ставілі посуд з рытуальнай ежай, клалі прылады працы і зброю.

У народзе курганы часцей называюць *капцамі* або *валатоўкамі*. Часам іх памылкова лічаць татарскімі або французскімі ці шведскімі магіламі. Шмат якія паданні гавораць, што ў курганах схаваныя скарбы, але гэта не адпавядае сапраўднасці. Кургановых могільнікаў на Беларусі больш за 6 тысяч. Яны — неацэнныя помнікі археалогіі і таму ахоўваюцца дзяржавай. Іх разбурэнне караецца законам.

Міхась ЧАРНЯЎСКІ.

## Якія беларускія дзяржавы былі ў старажытнасці?

Элементы дзяржаўнай арганізаванасці на Беларусі існавалі задоўга да яе пісьмовай гісторыі. З VI стагоддзя па Н.Х. на большую частку нашага краю пачынае пранікаць славянскае насельніцтва. Яго змешванне з мясцовымі балцкімі плямёнамі вяло да фармавання старабеларускага этнасу і своеасаблівай культуры, якую археолагі называюць Банцараўскай (паводле наймення гарадзішча каля вёскі Банцараўшчына пад Менскам). Ёсць шэраг сведчанняў, што нашы продкі ўжо тады мелі пэўныя формы дзяржаўнасці. Пазней, з VIII стагоддзя, з новай хваляй славянізацыі Беларусі, з фармаваннем крывіцкага, драгавіцкага і радзіміцкага плямёнавых саюзаў узнікаюць і дзяржавы. З X стагоддзя на Беларусі найбольш вядомыя — Полацкае, Смаленскае і Тураўскае княствы. Апошнія неўзабаве трапілі ў залежнасць ад Кіева. Полацкае ж княства было цалкам самастойнай старабеларускай дзяржавай, з усімі адпаведнымі атрыбутамі — суверэннай уладай князя і веча, адміністрацыяй, сталіцай, войскам, грашовай сістэмай і г. д. Княства праводзіла і сваю геапалітыку, якая палягала на супрацьстаянні агрэсіі Кіева і ўласнай экспансіі ў бок Балтыйскага мора. Падначаленне Полачыне цэлага шэрагу прыбалтыйскіх плямёнаў надавала ёй адзнакі імперыі.

Міхась ЧАРНЯЎСКІ.

## Хто такія Рагвалод і Рагнеда?

Рагвалод — першы беларускі князь, якога прыгадваюць старажытныя летапісы. Ён валадарыў у Полацку ў другой палове X стагоддзя. Пра яго летапіс кажа: «Рагвалод прыйшоў з-за мора», што дае пэўныя падставы лічыць князя выхадцам са Скандынавіі. Ужо пры Рагвалодзе Полацкае княства — моцная ўсходнееўрапейская дзяржава.

У Рагвалода была дачка Рагнеда, ганарлівая і прыгожая князёўна. Так сталася, што да яе адначасова пасваталіся гаспадары суседніх княстваў: Яраполк з Кіева і Уладзімір з Ноўгарада (пазней названы Хрысціцелем). Рагнеда выбрала Яраполка. Абражаны адмовай Уладзімір пайшоў на Полацк вайною. Горад быў спалены, а Рагвалод, ягоная жонка і два сыны забітыя. Рагнеду Уладзімір гвалтам узяў за жонку, даўшы ёй імя Гарыслава.

Праз некаторы час, жывучы пад Кіевам у сяльцы Прадславіне, Рагнеда спрабавала адпомсціць Уладзіміру: «За тое, што бацьку майго забіў, зямлю яго ў палон узяў, а цяпер ня любіш ні мяне, ні дзетак нашых!» Але замах быў няўдалы. Раз'юшаны Уладзімір хацеў пакараць княгіню смерцю, але яму перашкодзіў малалетні сын Ізяслаў, які стаў у абарону маці з мечам.

За гэта Рагнеду з сынам выслалі ў Полацкую зямлю. Там для яе збудавалі горад, названы Ізяслаўль (цяпер Заслаўе пад Менскам) — ад імя сына Ізяслава. Менавіта гэты Ізяслаў, заняўшы дзедаў пасад, адрадзіў полацкую княскую дынастыю.

Акрамя Ізяслава, Рагнеда нарадзіла Мсціслава (які пазней стаў князем Чарнігаўскім), Яраслава Мудрага (князя ноўгарадскага і кіеўскага, заснавальніка роду Яраславічаў), Усевалада і дзвюх дачок — Перадславу (узяла шлюб з чэшскім князем Баляславам III Рудым) і Прэміславу (выйшла замуж за прынца вугорскага Ласла Сара Лысага). Дарэчы, унучкі Рагнеды таксама былі жонкамі еўрапейскіх манархаў: Анастасія — вугорскага караля Андрыя I, Лізавета — караля нарвежскага Гаральда III, а пасля караля дацкага Свена II. Наймалодшая Ганна стала каралевай Францыі, выйшаўшы замуж за Генрыка I Капета.

У Заслаўі Рагнеда пастрыглася ў манашку пад імем Анастасіі і памерла там у манастыры ў 1000 годзе. Сёння для нас яе імя — сімвал мужнасці і любові да Радзімы, самаахвярнасці і ўласнага гонару.

Сяргей ТАРАСАЎ.

## Калі прыйшло на Беларусь хрысціянства?

Першыя хрысціянскія місіянеры з'явіліся на Беларусі, відаць, яшчэ ў IX стагоддзі. Іх станавілася тым больш, чым хутчэй прымалі веру Хрыстову суседнія еўрапейскія народы. Адным з такіх місіянераў быў ісландзец Торвальд Вандроўнік, які ў X стагоддзі прапаведаваў хрысціянскія ідэі ў Полацку і пазней быў пахаваны тут у заснаваным ім манастыры Іаана Прадцечы.

Хрысціянамі былі нашы славутыя валадары: княгіня Рагнеда (у манастве Анастасія), яе сын Ізяслаў і ўсе наступныя полацкія князі. Хрысціянства ішло на Беларусь як з Захаду (з Рыма), так і з Усходу (з Канстанцінопаля), хоць да сярэдзіны XI стагоддзя істотнай розніцы паміж гэтымі двюма плынямі не было.

Каля 992 года была заснаваная Полацкая епархія (у далейшым праваслаўная), на пачатку XI стагоддзя — тураўская (каталіцкая). Першы полацкі епіскап, пра якога згадвае летапіс, быў Міна (1104 год). Але, пэўна ж, былі святары і да яго, у тыя часы, калі полацкі князь Усяслаў Чарадзей збудаваў у нашай старажытнай сталіцы бажніцу Святой Сафіі (1055 год).

Хрысціянства на Беларусь прыйшло ў тым жа часе, як і ў многія іншыя краіны Еўропы (Данію, Швецыю, Нарвегію, Польшчу, Харватыю).

Панавальнай жа рэлігіяй яно зрабілася толькі ў канцы XII — XIII стагоддзі, бо сутыкнулася на Беларусі з моцнымі паганскімі (язычніцкімі) традыцыямі.

Тысячагадовае суіснаванне ў нас паганства і хрысціянства сталася падставаю для верацярпімасці, талерантнасці нашага народа да розных рэлігіяў.

Сяргей ТАРАСАЎ.

*Працяг будзе.*

---

*«Пазнаюць людзей ці па гаворцы, ці па адзежы, хто якую носіць; ото ж гаворка... і ёсць адзежа душы».*

Францішак БАГУШЭВІЧ.

*Культура мовы*

# ЧЫСЦІНЯ «АДЗЕННЯ»

Мова — душа народа. Яна ж і адзенне — строі думак чалавека. А пра што можа сведчыць стан адзення, у прыватнасці, яго чысціня, ахайнасць?

Задача выбару адэкватных моўных сродкаў не простая. Яна тым больш цяжкая для тых, хто спасцігаў таямніцы слова не ад маці, а вывучаў яе толькі па афіцыйна-пісьмовых крыніцах ды яшчэ па радыё і тэлебачанні. Неўласцівыя беларускай мове словы, формы слоў з друку пераходзілі ў слоўнікі з-за некрытычнага выбару крыніц для картатэк і такім чынам узаконьваліся. Атрымаўся своеасаблівы кругаварот. Прычым, такія словы сталі трапляць нават у выданні, якія самі павінны быць узорам чысціні беларускай літаратурнай мовы. Перш за ўсё з гэтых крыніц мы будзем цытаваць прыклады, не загрувашчваючы нататкі пашпартызацыяй, бо галоўнае не ў тым, хто адзначаны прыклад ужыў, а ў чым недакладнасць або памылка.

АДАБРАЦЬ (=ухваляць): *Прыйшоў нарэшце час, калі кіраўнікі краіны паказваюць прыклад не ў тым, якой рукой АДАБРАЦЬ палітычнае рашэнне.*

АДАБРАЦЬ (=выбраць): *...вырабы, якія таваразнаўцы папярэдне АДАБРАЛІ для ўцэнкі.* Адразу напрошваецца пытанне: у каго, чаму адабралі?

У беларускай мове слова *адабраць* мае значэнне *забраць у кагосьці*. Адпаведнікам расійскага *отобрать* (выбраць з некалькіх) у нас ужываецца слова *выбраць*. Замацоўвае блытаніну і «Руска-беларускі слоўнік» (1982 г.), які сам калькуе расійскае *отобрать* на «беларускае» *адабраць*, але паралельна дае і *выбраць: Хочаш — узбагачайся, адбіраючы чужое, а хочаш — выбірай сваё.*

*БІЦЦА: Магу біцца аб заклад; На што б'ёмся аб заклад?* Зваротны дзеяслоў *біцца* ў беларускай мове мае некалькі значэнняў, але *біцца* + прыназоўнік *аб* спалучаецца з назоўнікам канкрэтнага значэння *(аб сцяну, аб лёд* і г. д.). Расійская ж ідыёма *биться об заклад* мае беларускі адпаведнік *ісці ў заклад* або проста *закладацца*.

БРАКАВАЦЬ. Гэты дзеяслоў у беларускай мове мае два значэнні: 1) быць у недастатковай колькасці і 2) прызнаваць недабраякасным. Таму нельга яго ўжываць у значэнні *грашыць*, як гэта чытаем у адной нататцы па культуры беларускай мовы: *Вельмі бракуюць гэтым* (гаворка ідзе пра няправільнае ўжыванне граматычных формаў) *рускамоўныя выданні рэспублікі.* А ў наступным сказе: *Трэба выбраць міністра абароны, інакш гэта бракуе справе,* — на месцы *бракуе* павінна быць *перашкаджае*.

ДЗЕЛЯ — ДЛЯ. Апошнім часам у прэсе і ў выступленнях сталі шырока ўжываць прыназоўнік *дзеля* ў ролі, якая яму ў нашай літаратурнай мове не ўласціва,— пры перадачы аб'ектных адносін: *Дзеля «Навінаў Адраджэння» ці «Бярозкі» гэта не падалося вельмі страшным.* У такіх выпадках належыць ужываць прыназоўнік *для* або даць слова ў давальным склоне *(«Навінам», «Бярозцы»)* без прыназоўніка.

Прычыны такога ўжывання прыназоўніка *дзеля* могуць быць розныя. Па-першае, недастатковае адчуванне тонкасці яго значэнняў. Гэта, перш за ўсё, значэнне мэты: *дзеля выратавання бацькаўшчыны.* Тут і *дзеля* і *для* могуць узаемна замяняць адзін другога. Прыназоўнік *дзеля* ўжываецца і для перадачы адносін прычыннасці: *Небяспека страты Княствам незалежнасці ДЗЕЛЯ безупынных прэтэнзіяў польскіх паноў... не знікла.* У пэўных словазлучэннях з прычыннымі адносінамі можа выступаць і *для: слухалі для цікавасці*. Але прыназоўнік *для* перш за ўсё перадае аб'ектныя адносіны. Вось прыклад правільнага ўжывання прыназоўнікаў *для* і *дзеля* ў адным допісе: *Была створана Выканаўчая рада ДЗЕЛЯ пошуку форм работы; Адбылася прэс-канферэнцыя ДЛЯ журналістаў.*

Па-другое, не выключана і свядомае адмаўленне ад нормы, якая склалася гістарычна, пэўная апазіцыя традыцыі праз парушэнне нормы, чаго ніяк нельга ўхваліць, бо расхістванне нормаў адмоўна адаб'ецца на функцыянаванні літаратурнай мовы.

ЗА — ПА. У словазлучэннях: дзеяслоў руху + прыназоўнік *за* + назоўнік у творным склоне — у беларускай мове маем значэнне парадку перамяшчэння (хто за кім). Таму фразы накшталт *Самалёты адпраўляюцца ЗА нашымі хлопцамі; у горад ЗА таварамі* па норме беларускай мовы з'яўляюцца бяссэнсіцай. Тое, што хацелі сказаць аўтары працытаваных фраз, па-беларуску павінна быць аформлена словазлучэннем: прыназоўнік *па* + назоўнік ці займеннік у родным склоне, як у наступных сказах: *У Менск — ПА спагаду; Што ж да справядлівасці, то ПА яе ідуць звычайна да асоб, надзеленых уладай.*

ЗАДАВАЦЦА: *ЗАДАЮЦЦА чытачы і пытаннем пра тое, што...; Многія ЗАДАВАЛІСЯ пытаннем, чаму...* Гэтае словазлучэнне шырока ўжываецца ў прэсе, але носьбіту беларускай мовы, які ведае, што ў беларускай мове слова *задавацца* абазначае *'ганарыцца, фанабэрнічаць'*, хочацца запытацца: а нашто ж пытаннем ганарыцца? Больш дакладна па-беларуску сэнс расійскага словазлучэння *задаваться вопросом* перадаецца не зваротнай формай дзеяслова, а словазлучэннем *задаваць сабе* (пытанне), што таксама вельмі часта сустракаем на практыцы: *Задае Яніна сама сабе пытанне; Чаму мы не задаём сабе пытанні.*




*Рубрыку вядзе*

*Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

**Класік паўночнаамерыканскай літаратуры Уолт Уітман (1819—1892) адным з першых паказаў магутны патэнцыял белага верша.**

*Уолт УІТМАН*

## Калі я слухаў вучонага астранома

**Калі я слухаў вучонага астранома,**
**Які выпісваў на дошцы геаметрычныя фігуры, формулы і лічбы слупкамі,**
**Паказваў нам карты і дыяграмы: складай, вымярай і вылічвай,**
**Калі я сядзеў у кутку і слухаў лекцыю астранома**
**(Ён чытаў яе з бляскам, упэўнена, і меў вялікі поспех),**
**Сам не знаю чаму, я адчуў сябе дрэнна, вяласць і ўтома скавалі мяне.**
**Не дачакаўшыся канца, я выйшаў з аўдыторыі**
**На волю ў начную свежасць, у сіні прастор.**
**Як ціха! Якая невыказная гармонія!**
**Я глянуў угору, убачыў сапраўдныя зоркі, і мне стала лягчэй.**

*Пераклад з англійскай Юркі ГАЎРУКА.*

## Калі я, нібы Адам, рана ўранку

**Калі я, нібы Адам, рана ўранку,**
**Хораша выспаўшыся, выходжу са свайго ляснога будана,**
**Паглядзі на мяне — там, дзе я іду, паслухай мой голас, падыдзі да мяне бліжэй,**
**Дакраніся да мяне, дакраніся сваёю даланёю да майго цела, калі я праходжу каля цябе,**
**Не бойся цела майго.**

## Ціхія дні

**Не толькі ў шчырым каханні шчасце,**
**Не толькі ў багацці, у пашане сталага ўзросту,**
**яно — не толькі поспехі ў палітыцы альбо на вайне;**
**Бо калі жыццё паволі вяне, калі супакойваюцца бурныя страсці,**
**Калі надыходзіць хараство светлых і ціхіх колераў вячэрняга неба,**
**Калі пяшчота, напоўненасць, спакой ахопліваюць**
**усяго цябе, нібы ласкавае і гаючае паветра,**
**Калі асеннія дні свецяцца мяккім святлом, і**
**наліваюцца, нарэшце, яблыкі і вісяць, лянівасаспелыя на галінках,—**
**Тады, услед за безліччу іншых, прыходзяць самыя шчаслівыя, самыя ціхамірныя дні,**
**Цудоўныя дні спакойнага і насалоднага роздуму.**

*Пераклад з англійскай Янкі СІПАКОВА.*

***Чыталі?***

## «І чужое пазнавайце, і свайго не цурайцеся»




Выдавецтва «Юнацтва» накладам у шэсць тысяч паасобнікаў выпусціла «Другое чытанне для дзяцей беларусаў». Кніга — факсімільнае ўзнаўленне чытанкі, напісанай Якубам Коласам. Упершыню яна пабачыла свет з дапамогай вядомых суполак «Загляне сонца і ў наша ваконца» і «Наша хата» ў 1909 годзе ў Санкт-Пецярбургу. Прадмову да апошняга выдання згаданага падручніка Якуба Коласа напісаў Л. Сеўрук. Ён, у прыватнасці, звяртаючыся да юнага чытача, адзначае: «Кепска было б табе саўсім, каб ты не меў каля сябе ў скрынцы ксёнжачкі, у каторай на тваёй роднай мове апісана ўсё, што ты бачыў і чуў на сваёй роднай старонцы». І далей: «Бярэш ў рукі ксёнжачку і здаецца табе цяпер нічога ня трэба: перад табою як жывыя стаяць і касцы, і начлежнікі і жанцы... і палеткі і лясы і кароўкі... і ты саўсім як бы пабыў на сваёй роднай старонцы, адвёў, як кажуць, душу. Разам з гэтым ты сваёю душою пачуў, што значыць родная мова, напісаная на паперы, надрукаваная ў ксёнжачцы. Цяпер ты добра ведаеш, як кепска робяць тыя, што не толькі не шануюць сваёй роднай мовы, але нават **цураюцца, саромеюцца** яе. Украінскі **пясняр Шаўчэнка** не дарам казаў да землякоў:

Учыцеся, браты мае, учыцеся, чытайце,
І чужое пазнавайце і свайго не цурайцеся!»

Давялося быць сведкам, як адна пажылая жанчына набыла факсімільнае выданне «Чытання...» Заўважыла, што для ўнука. А я пашкадаваў, што ў коласаўскага падручніка няма хаця б супервокладкі з кароткім каментарыем, што гэта за выданне, як жа працаваць з ім зараз, каму адрасавана і г.д. Такая інфармацыя вельмі неабходна, нават калі кніжку выдаюць толькі з мэтай аднаўлення бібліяграфічнага рарытэта.

**А.К.**

■ ■ ■

## «З гісторыі ўласных іменаў»

Адкуль пайшлі нашы ўласныя імёны і прозвішчы? Чаму менавіта так называецца пэўны горад, вёска, рэчка, возера? На гэтыя і іншыя пытанні на аснове ўласных назіранняў і літаратурных звестак спрабуе адказаць Васіль Шур у кнізе «З гісторыі ўласных імёнаў», што накладам у 12500 паасобнікаў выйшла ў выдавецтве «Вышэйшая школа». Кнігу склалі раздзелы «Адкуль нашы імёны», «Як і калі ўзніклі нашы прозвішчы», «Яшчэ раз пра тапонімы», «Пра этымалогію народную і навуковую», «Тапаніміка і сумежныя навукі», «Пра тыпы пасяленняў і іх назвы», «Замены ў тапаніміцы і іх вынікі», «Пра тапонімы-вандроўнікі», а таксама падаецца спіс найбольш вядомых беларускіх імёнаў, іх варыянты, паходжанне і значэнне.

Завяршаючы размову пра беларускія ўласныя імёны, прозвішчы, тапанімічныя назвы, Васіль Шур піша: «Было б добра, калі б кожны, хто прачытае гэтую кнігу, стаў з большай увагай, клопатам і адказнасцю адносіцца да набыткаў нашай роднай мовы, да яе нявырашаных праблем». І трэба спадзявацца, што яно будзе так. Кніга адрасавана шырокаму колу чытачоў.

## Дыскусія аб генеалогіі Адама МІЦКЕВІЧА

У 1990 годзе ў Лондане Польская культурная фундацыя выдала кнігу Ядвігі Маўрэр «Ад чужой маткі...», у якой даследуюцца малавядомыя фрагменты і бакі біяграфіі вялікага польскага пісьменніка, палітычнага дзеяча Адама Міцкевіча. Аўтарка дэкларатыўна выступае супраць, як яна піша, «афіцыйнай міцкевічалогіі», якая свядома і нават наўмысна зацямняе некаторыя факты яго асабістага жыцця, пазнейшай літаратурнай і грамадскай дзейнасці. Галоўным папрокам, які кідае Я. Маўрэр міцкевічолагам, з'яўляецца фальсіфікацыя фактаў, якія датычацца яўрэйскага паходжання А. Міцкевіча.

У сувязі з публікацыяй кнігі Я. Маўрэр на старонках вядомага польскага штотыднёвіка «Палітыка» разгарнулася дыскусія, якую распачала Аліна Віткоўская (1992, № 44). Паказваючы сябе як «афіцыйнага міцкевічолага», А. Віткоўская прыкладае ўсе намаганні, каб абараніць польскасць Адама Міцкевіча. Яна ўвогуле не бачыць падстаў, каб гаварыць пра нейкія неўдакладненыя пытанні ці цёмныя месцы ў паходжанні класіка. Такую ж яго характарыстыку, як «польскі паэт з беларускай часткі Літвы», лічыць залішняй і неістотнай. А. Віткоўскую не задавальняе той факт, што, як яна піша, «на Міцкевіча прэтэндуюць таксама (акрамя яўрэяў.— А. К.) літоўцы і беларусы, матывуючы гэта геаграфічнымі акалічнасцямі (паходжання Міцкевіча.— А. К.)».

Міцкевіч — польскі пісьменнік, Міцкевіч належыць да польскай культуры — гэту думку А. Віткоўская паўтарае неаднаразова, падкрэсліваючы, што аніякіх новых фактаў адносна паходжання Міцкевіча ў апошні час не выяўлена.

Дыскусію працягвае Ядвіга Маўрэр з універсітэта ў Канзасе (ЗША) («Палітыка», 1993, № 5), якая зазначае, што справа не ў тым, быў Міцкевіч польскім паэтам ці не (сама Я. Маўрэр не сумняваецца ў першым), а ў тым, каб аб'ектыўна высветліць усе факты жыцця і творчасці Адама Міцкевіча.

Па версіі Я. Маўрэр, А. Міцкевіч быў напалову яўрэем — па лініі маткі Барбары з Маеўскіх, і ўжо ў дзяцінстве менавіта пад уплывам маткі адчуў яўрэйскія традыцыі, якія значна ўзмацніліся ў перыяд яго пазнейшай творчасці і палітычнай дзейнасці. Жонка паэта Цэцылія паходзіла таксама з сям'і хрышчоных яўрэяў, членаў секты Якуба Франка. «Яўрэйская тэматыка,— піша Я. Маўрэр,— адыгрывала істотную ролю ў біяграфіі Міцкевіча. Гэтыя сувязі доўгі час замоўчваліся».

Артыкул Магдалены Апальскай з Антарыо (Канада) змяшчае шэраг іншых аргументаў наконт нацыянальнасці Міцкевіча і нацыянальных традыцый яго творчасці. «Маўрэр не здольна адназначна даказаць ці прывесці новыя факты аб яўрэйскім паходжанні Барбары з Маеўскіх, маткі Адама,— піша М. Апальская.— Наўрад ці ў дыскусіі аб генеалогіі Барбары Міцкевічовай увогуле калі-небудзь будуць прыведзены новыя аргументы. Аднак доказы, якія гавораць пра тое, што яна змяніла сваё веравызнанне, настолькі шматлікія і сур'ёзныя, што гэта гіпотэза многімі лічыцца пацверджанай. Размова пра гэта вялася яшчэ пры жыцці паэта ў форме салоннай плёткі». «Яўрэйскія сувязі Міцкевіча,— працягвае М. Апальская,— гарманічна ўпісваюцца ў яго біяграфію. Дакладны аб'ём іх уплыву на сямейнае жыццё і кар'еру паэта (прафесура ў Каледж дэ Франс), палітычную дзейнасць (яўрэйскі легіён), інтэлектуальныя і рэлігійныя перспектывы (уплыў яўрэйскага містыцызму, канфлікт з артадаксальным каталіцызмам) неабходна яшчэ ўдакладніць, але сам факт існавання гэтага ўплыву не падлягае сумненню... Без Ізраіля — старэйшага брата цяжка зразумець сэнс філасофіі гісторыі Міцкевіча, пра якую Норвід пісаў, што ў рэшце рэшт яна вядзе ў сінагогу».

Як кожны вялікі пісьменнік, Адам Міцкевіч належыць не толькі да польскай, але і да сусветнай літаратуры, складаючы шэраг найбольш выдатных творцаў чалавецтва. Асабістыя абставіны жыцця А. Міцкевіча абумовілі яго глыбокія сувязі не толькі з польскай, але таксама і з беларускай, літоўскай, французскай, яўрэйскай культурамі. Не ідзе гаворка пра тое, што беларусы ці яўрэі хочуць прысвоіць Міцкевіча, а толькі пра тое, каб гісторыя літаратуры магла найбольш аб'ектыўна адлюстраваць складаную, амбівалентную творчасць вялікага польскага пісьменніка.

Шэраг спецыялістаў адчувае ў сувязі з гэтым пэўны дыскамфорт. Я не бачу тут аніякай праблемы, акрамя праблемы прывычкі. Трэба пісаць новыя падручнікі, праводзіць новыя даследаванні. Што ж зробіш? Урэшце Адам Міцкевіч таксама меў права на свае прывычкі.

**Алесь КІКЛЕВІЧ.**

